 




## Сціплая нахрапістасць

Пад раніцу ў Мілане распагодзілася. Лагоднасцю свяціліся твары прахожых. У гэты час суперапeратыўныя дзядзькі падпільноўвалі здабычу на вуліцах, у парках і скверах. Яны далікатна падыходзілі да юнака ці дзяўчыны і задавалі стэрэатыпнае пытанне:

— Вы шчаслівыя? Мы зробім вас шчаслівымі! Вы зазнаеце слодыч жыцця ў найвялікшым багацці..

Нехта клюнуў на гэтую салодкую прынаду. І тут жа гаваркі дзядзька прапаноўваў юнаку ці дзяўчыне ўступіць ў секту „Дзеці Муна“. Ёсць яшчэ адна ахвяра! А наўздагон ёй ідзе другая, трэцяя. Так шырацца рады секты „Дзеці Муна“ ў Італіі.

І не толькі ў Італіі. Секта „Дзеці Муна“ з’яўляецца адгалінаваннем створанай некалі ў Паўднёвай Карэі рэлігійнай арганізацыі „Юніфікейшн чэрч інтэрнэшнл“. Цяпер „Дзеці Муна“ расплодзіліся ў 100 краінах свету.

Заснавальнік секты Санч Мунг Мун жыве ў ЗША. Ён абвясціў сябе змагаром за мір, а сам адкрыў ваенны завод. Ён моліцца за беднасць, а сам у розных кутках свету мае рухомай і нерухомай маёмасці на 12 мільёнаў долараў. Калі яму даводзіцца пакідаць сваю вілу паблізу Нью-Йорка і кіравацца ў іншую частку краіны дзеля прапаганды пераваг беднасці, ён ляціць на ўласным рэактыўным самалёце, плыве на сваёй яхце ці едзе ў браніраваным „Лінкальне“. Мун забраў сабе ў галаву думку, што на зямлю яго спусціў Ісус Хрыстос, каб „аднавіць на ёй царства боскае“.

Ад завербаваных юнакоў і дзяўчат гэты самы Мун патрабуе ахвяр. Яны ў абавязковым парадку двойчы ў дзень — да абеду і пасля — павінны жабраваць па вуліцах. Уяўляеце, стаіць сабе ля магазіна дзябёлы дзяцюк з працягнутаю рукою і раз-пораз выкрыквае:

— Людцы добрыя, памажыце хто чым можа і хто колькі можа! Лепш даваць, чым прасіць...

Калі дзённая „выручка“ не перавышае 50 тысяч лір, маладога чалавека зноў выпраўляюць на вуліцу. Калі новаспечаны „сын Муна“ паводзіць сябе „прыстойна“, яго пасылаюць на спецыяльныя курсы па ідэалагічнай апрацоўцы. „Вось ужо два гады, як мая дачка стала паслядоўніцай Муна, — скардзіцца адзін італьянец у пісьме ў газету „Уніта“. — Я без поспеху імкнуся вырваць яе з кіпцюроў гэтых маньякаў. Іх формы ўплыву на моладзь надта нагадваюць тыя, што ўжываліся ў нацысцкіх школах. У прыватнасці, яны на ўсе лады імкнуцца разбурыць асобу маладога чалавека...“

Грамадскасць устрывожана пашырэннем уплыву секты „Дзеці Муна“ сярод моладзі. Нядаўна італьянскія дэпутаты-камуністы накіравалі міністру ўнутраных спраў сваёй краіны запытанне наконт дзейнасці секты і метадаў вярбоўкі моладзі. Яны запатрабавалі прыняць захады па ліквідацыі махлярстваў гэтай нахрапістай арганізацыі.

**І. П.**

### А ФАРТУНА ЎСМІХНУЛАСЯ

— Копія малавядомай карціны жывапісца Францыска Гойі. Усяго адзін фунт стэрлінгаў! Хто больш? Прададзена! Наступны нумар.., — так вось і схібілі эксперты буйнейшага лонданскага аўкцыёна „Сотбі“, калі на адной з апошніх распрадаж яны пазбавіліся арыгінала, думаючы, што маюць справу з копіяй. Затое пакупнік зрабіў добры бізнес. Як піша англійская „Дэйлі мірар“, палатно каштуе прынамсі дзесяць тысяч фунтаў стэрлінгаў.

### НЕ ПАСОЛІШ — НЕ ПАЕДЗЕШ

„Засыпце мне, калі ласка, у бак кілаграм солі“. Не выключана, што ў недалёкім будучым такую фразу можна будзе пачуць на аўтазаправачных станцыях. Пошукі эквівалента бензінаваму рухавіку прывялі японскага прафесара Наацугі Ісікі з Такійскага тэхналагічнага інстытута да арыгінальнага адкрыцця. Ён вынайшаў паравы рухавік, які працуе на абагачаным растворы солей: хларыдаў кальцыю і літыю. Матацыкл з такім рухавіком магутнасцю 0,5 конскай сілы паспяхова прайшоў дэманстрацыйныя выпрабаванні, паказаўшы пры гэтым скорасць 20 кіламетраў у гадзіну.






**Карэспандэнцыя з Мінска.** „Белазы“ на дэманстрацыі працоўных 7 лістапада 1977 г.



## На братняй зямлі

*Бяжыць дарожка роўная*
*За самы небакрай.*
*Цвіце зямля чароўная,*
*Ну так, як родны край.*

*З цікавасцю праехалі*
*Ўжо не адну вярсту —*
*Дамы з клінамі-стрэхамі*
*І дзятлаў перастук.*

*Бярозы — тыя самыя,*
*Асіны шалясцяць.*
*Нібы прыйшла вясна мая*
*З юначага жыцця.*

*І кветкі тут ружовыя*
*Прымаю з белых рук —*
*Шляхі перакрыжоўвае*
*Так Польшча, Беларусь.*

*Абдымкі. Словы шчырыя.*
*Размова ў лад ідзе.*
*Гляджу на рэчы шырай я,*
*Чым некалі глядзеў.*

*Заняты творчай працаю*
*Шахцёр, араты — усе.*
*І слухаюць па рацыі,*
*Што заўтра прынясе.*

*А заўтра — будуць новыя*
*Здабыткі, як і ў нас...*
*Шумяць лясы сасновыя —*
*Такая старана.*

**Анатоль Іверс**

*„За перамогу камунізму“, 1 студзеня 1978 г.*

## НА КАНВЕЕРЫ — КВАТЭРЫ

Дзяржаўная камісія прыняла ў эксплуатацыю Гомельскі завод буйнапанельнага домабудавання.

Прадпрыемства разлічана на вытворчасць 160 тысяч квадратных метраў жылля ў год. З уводам яго на поўную магутнасць Гомельскі домабудаўнічы камбінат штогод будзе выпускаць трыста тысяч квадратных метраў жылля — у два з лішнім разы больш, чым вырабляў да гэтага часу.

## ХРОНІКА

■ У месяцы студзені актыў Беларускага таварыства далей актыўна працаваў. Варта сказаць і аб тым, што арганізаваў ён цікавыя і прыемныя навагоднія балі 14 студзеня. У Варшаве адбыўся ён у Палацы культуры, у Беластоку — у памяшканні ГП БГКТ, а ў Бельску і Гайнаўцы ў Дамах культуры.

■ 27 студзеня Галоўная рэвізійная камісія БГКТ правяла кантроль статутовай і фінансавай дзейнасці ГП за 1977 год.

■ 29 студзеня ў памяшканні Галоўнага праўлення ў Беластоку мясцовы гурток БГКТ падрыхтаваў навагоднюю ёлку для дзяцей, бацькі якіх з’яўляюцца членамі нашага таварыства.

■ Пасля абеда ў гэты ж дзень праведзены быў конкурс „Беларуская песня — 78“ для самадзейнікаў Беластоцкага раёна. Сярод салістаў першае месца заняла Зофія Цацэрка з Баброўнікаў, а другое месца раздзялілі Марыя Хіліманюк з Нарвы і Валянціна Дарашкевіч з Меляшкоў. Выступілі два дуэты: Аня і Люба Гаўрылюк (дачка і маці) з Беластока і Галена Кот і Ірэна Паўлючук з Гарадка. Камісія прызнала ім першае раўназначнае месца. Тарцэт быў толькі адзін, не меў ён канкурэнтаў. У яго склад уваходзілі: Зофія Харкевіч, Яўгенія Усцілка і Валянціна Шуста.

У групе вакальных калектываў выступілі: жаночы калектыў з Гарадка, які заняў першае месца, беластоцкія „Каласкі“ — другое месца і васьміасабовая харавая група з Меляшкоў — трэцяе месца. Неяк дзіўна злажылася, што ў конкурсе з Беластоцкага раёна не знайшлося аніводнага ўдзельніка мужчынскага роду.

2 лютага адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Павестка дня складалася з наступных пунктаў: 1. Справаздача аб дзейнасці ГП за 1977 год. 2. Справаздача аб фінансавай дзейнасці ў 1977 годзе і праект бюджэта на 1978 год. 3. Рэалізацыя пастаноў VIII з’езду БГКТ. Удзельнікі пасяджэння многа ўвагі прысвяцілі навучанню беларускай мовы ў школах.

31 I 1978 г. памёр Хведар Германюк (75 г.), былы член КПЗБ, актывіст БГКТ з г. Аўгустова.

**(мх)**




**Дасягненні і недахопы БГКТ ● Арлянскі Вася Цёркін ● Дзядзька Максім — радны ● Армія міру ● Дэкада культуры вёскі ● Паверхі Бельска ● Найактыўнейшыя з Рыбал ● Весткі з Тыневіч, Парцава, Альхоўкі, Іванак, Орлі, Апакі, Трасцянкі, Нараўкі ● Калі сняцца звязаныя ногі ● Трымайце вуха! ● Песня „Droga, którą idę“. ● Задрыпанец едзе ў госці.**




**Sobota 18 II** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Hod. zwierz. 10.00 Dla kl. I—III Czerw., żółte, ziel. 11.05 Dla kl. VIII Geogr. 11.30 Kanciarze i spółka — ang. kom. krym. 12.55 TTR. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 13.45 Red. szk. zap. 13.55 Pr. dnia. 14.00 Dziennik. 14.10 Obiektyw. 14.30 Radzimy rol. 14.40 O misiach, miśkach i niedźwiadkach — program dla dzieci. 15.10 Spotk. na antenie. 15.50 Latarnia czarnoksięska. 16.20 Żółta łódź podwodna — ang. film muz. 17.45 Sport. 18.05 Koncert Studia Gama. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Filmy z Brigitte Bardot. 22.15 Tysiące świateł — pr. rozr. 22.55 Dziennik. 23.10 W kręgu strachu — am. dramat sens.

**Niedziela 19 II** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Hod. zwierz. 7.40 Alarm przeciwpoż. 7.50 Nasze spotkania. 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Sport. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Tam gdzie czas się zatrzymał — fr. film dok. 11.10 Cztery etiudy choreogr. 11.30 Dziennik. 11.45 Rolnicze rozmowy. 12.15 Pr. muz. 12.25 Bank Miast: Skwierzyna — Sztum. 13.30 Czerwony kapturek. 14.00 Pr. muz. 14.10 Piórkiem i węglem. 14.35 Los. Dużego Lot. 14.45 Pr. muz. 15.00 Przygoda w Trynidadzie — am. dramat sens. 16.40 Tele-Echo. 17.40 Bank 440. 18.15 Sport. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.30 Bajka dla dor. 20.40 Czterdziestolatek — ser. 21.35 Muzyka i ekran. 22.15 Sport. 22.50 Klub Filmowy.

**Poniedziałek 20 II** — 12.45 RTSS. Geogr. (1). 13.25 TTR. Mech. rol. (33). 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — nauki polit. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Zwierzyniec. 17.15 Studio Kibica. 18.00 Droga — ser. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr TV. S. Grochowiak „Lęki poranne”. 22.30 Dziennik. 22.45 Camerata.

**Wtorek 21 II** — 9.00 Dla kl. III Mat. 10.00 Dla kl. VI. J. pol. 12.45 RTSS. Hist. (4). 13.25 Chem. (18). 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Studio Mł. 17.10 Wszystko o emeryturach dla rolników. 18.05 Sport. 18.25 Człowiek i przyroda. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Saga rodu Palliserów — ser. 21.30 Sonda. 22.00 Dziennik. 22.15 Teatr Małych Form A. Strindberg: „Więź”.

**Środa 22 II** — 9.00 Dla kl. VII Chem. 11.05 Dla kl. VIII Fiz. 12.00 Dla kl. VII—VIII Wych. muz. 12.45 RTSS. J. pol. (41). 13.25 Mat. (49). 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — naucz. pocz. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 17.00 Los. Małego Lot. 17.15 Wojsk. Film Dok. 18.15 Nie tylko dla kobiet. 18.45 Sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Oficerowie — fab. film radz. 22.10 Sport. 23.00 Dziennik. 23.15 Rozmowy o sztuce.

**Czwartek 23 II** — 10.00 Dla kl. VI Hist. 12.00 Dla kl. VIII J. pol. 12.45 RTSS. Mat. (18). 13.25 Fiz. (10). 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 Turystyka i Wyp. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Bratek przy kominku. 18.00 Poligon. 18.20 Sport. 18.50 Radzimy rol. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji: J. M. Trojak: Przysługa za przysługę. 21.55 Pegaz. 22.40 Dziennik.

**Piątek 24 II** — 9.00 Dla kl. V Geogr. 10.00 Dla kl. VII Geogr. 12.00 Dla kl. VIII Geogr. 12.45 TTR. Upr. rośl. (40). 13.25 Mech. rol. (34). 14.55 Pr. dnia. 15.00 Melodie. 15.30 NURT — psych. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Spotk. z medyc. 17.25 Kółko i krzyżyk. 17.40 Opowieść o przyjaźni — ser. 18.40 Magazyn motor. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Film TV na świecie: Ambasada — film szw. 21.50 Przed Opolem. 22.20 Dziennik. 22.35 W minutę po premierze. 23.20 Przed Opolem.




**Piątek 17 II** — 7.20 Film fab. ser. 14.20 Koncert. 17.20 Film fab. ser. 19.30 Hokej. 20.05 Koncert.

**Sobota 18 II** — 7.25 Film fab. ser. 10.10 Film fab. 12.00 Hokej. CSKA—Chimik. 15.00 Tenis. 15.35 Filmy anim. 17.35 Spektakl. 20.35 Koncert.

**Niedziela 19 II** — 9.00 Film fab. 12.00 Spektakl. 14.40 Panorama międzynar. 15.10 Koncert Życzeń. 16.15 Film anim. 16.30 Klub film. 17.30 Film fab.




**Białowieża** Zaginęła dziewczyna — czes. 21—22. Kariera na zlecenie — fr. 23—24. Wielka podróż Bolka i Lolka — pol. 25—26.

**Bielsk Podl.** Omen — ang. 21—23. Wielka podróż Agaty Scheigret — NRD 24—25. Szkarłatny pirat — USA 26.

**Czeremcha** Pułapka — pol. 21—22. Trzecia córka — radz. 25—26.

**Czyże** Dagny — pol. Zaufanie — radz. 22—26.

**Dubicze Cerkiewne** — Przepraszam czy tu biją — pol. Skazańcy — buł. 22—26.

**Gródek** Serpice — wł. 25—26.

**Hajnówka** Świadek koronny — wł. 20—21. Posłannictwo z innej planety — RFN 22. Terror Mechagodzilli — jap. 23—25. Adopcja — węg. 26.

**Micha'owo** Piętaszek i Robinson — ang. 21—22. Ludzie godni szacunku — wł. 23—24. Barwy ochronne — pol. 25—26.

**Mielnik** Oddział — USA 22. Wrzos — pol. 25—26.

**Milejczyce** Zasadzka — rum. 21—22. W mroku nocy — USA 23—24. Posłannictwo z innej planety — RFN 25—26.

**Narew** Anno Domini 1573 — jug. Klatka — fr. 22—26.

**Narewka** Rewolwer Python 357 — fr. Nasz nowy braciszek — NRD 22—26.

**Nurzec** Gniazdo — pol. 21—22. Doktor Mladen — jug. 23—24. Szarada — pol. 25—26.

**Orla** Dziewięć miesięcy — węg. Filipek — NRD 22—26.

**Rajsk** Cyrk w cyrku — czes. To jeszcze nie miłość — NRD 22—26.

B.Z.Graf. Zam. nr 320 7900 egz. N-4

 

# СЛОВА АБ БРАНІСЛАВЕ ТАРАШКЕВІЧУ

**РАЗМОВА З АЛЯКСАНДРАЙ БЕРГМАН**

**Такім чынам, маем найпоўную біяграфію Тарашкевіча*). „Ніва“ з цікавасцю сачыла за ажыццяўленнем вашай ідэі. Мы былі поўны прызнання вашай паслядоўнасці і вытрымцы. Цяпер бачым, што гэта быў сапраўдны подзвіг. Як адчувае сябе аўтар пасля здзяйснення яго?**

„Ніва“ не толькі сачыла за ходам маёй працы, але і падтрымлівала (а як гэта важнае, калі ў чалавека цяжкасці!). За гэта ёй сардэчнае дзякуй. Вы найлепш ведаеце, колькі часу і нерваў каштуюць розныя змены „варыянтаў“, пераробкі і г.д. У суме на гэтых пераробках мая кніжка, магчыма, крыху і выйграла (бо ўсё папаўнялася новымі матэрыяламі), аднак усё гэта надта доўга цягнулася. Пачуццё задавальнення прыйшло з вялікім спазненнем. Я задаволена, што прысвяціла столькі часу чалавеку, якога высока цэніць наша грамадства. Адам Мальдзіс, намеснік старшыні мемарыяльнай камісіі Саюза пісьменнікаў БССР, гаворачы („Літаратура і мастацтва“, 2 XII 1977) аб патрэбе ўвекавечання стваральнікаў беларускай навукі і асветы ў Мінску, ставіць Тарашкевіча ў адным шэрагу з С. Будным, Я. Карскім, Я. Коласам, В. Купрэвічам, У. Перцавым. І яшчэ адно. Тэму выбрала я сама, і ў той час, калі аб Тарашкевічу ведала вельмі мала. Была знаёма толькі з яго выступленнямі ў Сейме. І я цешуся, што інтуіцыя мяне не падвяла.

**Ваша кніжка вылучаецца не толькі аб'ёмам, але і пошукамі. Якія факты было вам найцяжэй устанавіць?**

Спачатку вельмі цяжка было адшукаць штоколеч. Галоўным чынам таму, што не былі адпаведна апрацаваны архівы. Потым становішча палепшылася. Аднак з найбольшымі цяжкасцямі сустрэлася я пры пошуках навуковых прац Тарашкевіча. Сыграла тут ролю некалькі фактараў: запозна пачала я гэтымі працамі цікавіцца (і то толькі пасля інспірацыі праф. Антаніны Яблонскай), на след яго, магчыма, найважнейшай працы — Гістарычнай граматыкі беларускай мовы — трапіла ў канцы пошукаў, недаацаніла той факт, што Тарашкевіч быў членам Акадэміі навук БССР і не накіравала сваіх пошукаў у тым напрамку (хоць потым максімальна выкарыстала апублікаваныя ў 1968 г. АН БССР дзве працы: А. Юрэвіч і А. Яновіч). Склалася на гэта некалькі прычын. Між іншым, я паддалася ўздзеянню фактаў з біяграфіі Тарашкевіча, з якіх вынікала, што з прыбыццём у Маскву ён настолькі моцна заняўся справамі Аграрнага інстытута, куды накіравалі яго партыйныя ўлады, што не хапіла часу і магчымасці займацца пачатымі раней беларускімі працамі (падкрэсліў гэта таксама Ю. Зябіцкі ў сваім неапублікаваным дзённіку). Да канца давёў хіба толькі пераклад усёй „Іліяды“, якую здаў у „Белгосіздат“. У суме ўдалося мне толькі трапіць на сляды яго прац (Сравнительная грамматика индо-европейских языков, доктарская праца, Сінтаксіс і спамянутая ўжо Гістарычная граматыка беларускай мовы). У руках трымала толькі розныя выданні „Беларускай граматыкі для школ“.



*А. Бергман.* *Фота М. Гайдука.*

**А найвартасныя ўдачы?**

Дасягненнем лічу, што ўдалося мне вывучыць дзве аўтабіяграфіі Тарашкевіча і матэрыялы польскага генеральнага штаба аб Грамадзе, дакладна пазнаёміцца з судовымі справамі Тарашкевіча (следствы і працэсы), знайсці яго „Кнігу вязняў“, здабыць вязку дакументаў аб перакладзе „Пана Тадэвуша“ і „Дзённік“ Ю. Зябіцкага, а таксама адшукаць крыху людзей, якія ведалі Тарашкевіча асабіста.

**У сваёй кніжцы звяртаеце ўвагу даследчыкаў на літаратурную спадчыну Тарашкевіча (на маю думку, пераацэньваеце яе). Ці не бачыце вы іншых прагалаў у жыцці і дзейнасці правадыра Грамады, якія ў першую чаргу трэба даследаваць?**

Ці пераацэньваю яго літаратурныя працы? Хіба наогул зарана аб гэтым гаварыць. Калі паявяцца пераклады „Пана Тадэвуша“, „Іліяды“, тады можна будзе спрачацца на гэтую тэму. Я толькі звярнула ўвагу на сам факт перакладу, як на гераічны пачын, устанавіла, што пераклад „Пана Тадэвуша“ поўнасцю быў зроблены звыш 45 гадоў таму (першы пасля Дуніна-Марцінкевіча). Адносна „Іліяды“. Існуе меркаванне, што дагэтуль няма поўнага перакладу „Іліяды“ (Беларуская энцыклапедыя, том 3, стар. 327) на беларускую мову. Таму ўстанаўленне, што Тарашкевіч пераклаў усю „Іліяду“ непасрэдна з арыгінала не з'яўляецца дробязным фактам. Зарана таксама гаварыць, што ў першую чаргу трэба вывучаць. Найперш трэба дакладна вывучыць архівы, бібліятэкі, сабраць яго працы.

**Тарашкевіч пакінуў трывалыя вартасці, сцвярджаеце ў заключэнні. Якія з іх, па-вашаму, павінны быць найдарагімі ў нашы дні?**

Вучыцца ў яго можна ва ўсіх галінах, у якіх прымаў удзел, бо быў творчы. Перш за ўсё асоба. У кожных абставінах грамадскі і нацыянальны інтарэсы ставіў вышэй асабістага. У цяжкіх хвілінах не вёў сябе пакутнікам, ахвярай часу, захаваў чалавечую годнасць. Усё рабіў з задавальненнем, цяжкасці ў пэўным сэнсе яго развесялялі і выклікалі добры настрой. Цяжкасці сустракаў з узнятай галавой. Адзін з найвыдатных беларускіх пісьменнікаў, прачытаўшы маю кніжку, напісаў мне, што чытаў яе з вялікім зацікаўленнем, бо ўжо даўно быў поўны захаплення гэтым чалавекам. Ці гэта мала?

Размову правёў
**Г. Валкавыцкі**

---

*) Aleksandra Bergman — Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu. Książka i Wiedza, 1977. Nakład 1200+350 egz. Str. 244. Cena zł 50.

## Наша галерэя



*Ткачук В. М. „Батанічны сад“ (Мінск), літаграфія.*




# САД

За вёскаю было кусочак грамадскага пляцу. Летам нечыя авечкі забягуць, або гусі зайдуць травы пашчыпаць. Часамі дзеці, прынёсшы з сабой мяч, вызначаць вароты і ў футбол іграюць. А ў нядзелю ці прысвятак нейкія мужыкі, выгнаўшы ў поле кароў, прысядуць пакурыць ды пагаварыць аб тым-сім, што дзе новага, хто што рабіць збіраецца, калі і якое жніво летась будзе. Моладзь часам забавы ўладжвала. Працягнуць ад канцавога Рыгора кабель, павесяць на ўкапаным стаўбе лямпачку і скачуць аж да самай раніцы. Прыемна на свежым паветры. Нехта з вучняў пару дрэўцаў пасадзіў, якія прыгожа зазелянелі, а рабіна, то нават восенню ягадамі закрасавала.

Але аднойчы на сходзе вырашылі сад там пасадзіць. Кожны пасадзіць па адным-два дрэўцы — і будзе некалі сад. Пляц пустуе, а як прыемна, калі настане май і сад пакрыецца беллю. Або восенню, калі між лістоў засмяюцца сарамліва фрукты. Здаецца, што чыстае сонца раздробілася на кавалкі і павісла на галінках.

І праз нейкі час пачалі паяўляцца першыя дрэўцы. Хадзілі, даглядалі. Выменьваліся парадамі. Часам вопытнейшыя садоўнікі з другіх вёсак свае парады давалі — што і як рабіць, каб чэрві пладоў не елі, або каб на яблыках цёмных плям не было. Сад разрастаўся. Гаспадаром была цэлая вёска. Зразумела, кожны перш за ўсё свайго дрэўца глядзеў, але і дбаў пра сад. Падвязвалі, пільнавалі, бо вядома, не загароджанае — то і карова нейкая забяжыць і за галінку скубне, то зімою касавокія забягуць і паабгрызаюць. А часам і дзеці. Вядома, колькі ў іх там розуму, забягуць то і наробяць шкоды. Але людзі былі дружныя. Як толькі ўбачаць нейкую шкоду, дык стараюцца як найхутчэй яе выправіць. Дапамагалі адзін аднаму. Не лічыліся з тым, што, моў, гэтае дрэўца не я садзіў. Сад разрастаўся. Колькі было радасці! Быццам нейкі скарб далікатна неслі ў далонях першыя плады, каб хатнім паказаць. Ды і іншыя дзіваваліся. Што за сад! Едуць у горад на торг, стануць ды любуюцца — ну і сад... А сад рос, толькі паміж садоўнікамі нешта дрэннае пачало дзеяцца. Пакуль яшчэ пладоў не выдаваў, дык усё было добра, але як толькі яблыкі ды грушы пачалі рэгулярна з году ў год паяўляцца, дык і злосць паміж людзьмі пайшла.

— Каб не мая яблыня, дык што гэта за сад быў бы, — гаварыў адзін. — Глянь, колькі яблык родзіць.

— Цэлая ерунда твая яблыня. Падумаеш, саду не было б без тваёй яблыні! Што гэта за яблыкі? Заморышы нейкія, — гаварыў другі.

— Вашыя ўсе яблыкі то гамно! Я свае грушы як паказаў Ігнату з Забалоцця, дык на другі дзень біткам у хату ішлі, каб купіць. „Вось садоўніцкі талент!“ — хвалілі, — расказваў яшчэ іншы.

— Мы мелі сад садзіць, а не нейкія там грушы.

— У тым то і рэч, што сад. Каб не я, дык саду гэтага не было б.

І так сварыліся кожны дзень. Свінства адзін аднаму пачалі падкладаць. То галіны паабламваюць, то карэнне падкапаюць. Даказваць адзін другому пачалі, што, моў, я першы дрэўца пасадзіў, мая заслуга, што гэты сад расце. Нават за лісткі пачалі сварыцца, што ў мяне растуць так як трэба, а ў цябе пад гару неяк, выгляду ніякага няма, ды нейкая зелень дзіўная. А сад рос. Нягледзячы на ўсё гэтае — рос. Як бы на злосць, што вы сварыцеся, а я і так буду расці. Пазразайце нават, то і так ад кораня вырасту. І рос.

**Бізун**

# МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

## Лявон Дмітрук



Высокі, чарнявы, стройны. Не выглядае ён на 35-гадовага мужчыну. А калі расцягне свой гармонік, тады выглядае яшчэ маладзей. Любоў да музыкі спадарожнічае яму ад дзяцінства. Будучы школьнікам, выдзяляўся ў малінніцкай „падставоўцы“ сваім музычным талентам. Калі было яму 15 год, іграў ужо на музыках-забавах. Пазней разам з сябрамі пачаў іграць на вяселлях. Што было б варта вяселле без музыкантаў? Гэта ж не вяселле, амаль кожны скажа. Як добра, што паяўляюцца на нашых вёсках такія самародныя музыканты!

Лявон Дмітрук у вёсцы залічаецца да добрых гаспадароў. У яго 2 кані, 4 дойныя каровы, 5 яловак, 5 свіней, 5 авечак, некалькі качак, каля 30 курэй. Шмат ён прадае дзяржаве малака, мяса, яек, збожжа, бульбы. Гаспадарыць больш як на 10 га зямлі, атрымоўвае добры ўраджай як на палях, так і на сенажацях.

Родам ён з Сакоў. Прыйшоў, як кажуць, у прымакі да сваёй ветлівай і прыгожай Олі ў Грыгароўцы. Ажаніўся, пачаў будаваць. Раней было тут пустое месца. А цяпер стаіць найдалей ад вуліцы вялікая мураваная клуня, бліжэй да вуліцы — хлявы з пустакоў, а пры самай вуліцы вялікі, мураваны дом з усімі выгадамі. У хаце туалет, ванна, цэнтральнае ацяпленне, а ў прасторнай кухні кафляная сцяноўка і пліта з хлебнай печчу, у якой жонка пячэ духмяны хлеб і пірагі.

Лявон Дмітрук усё зрабіў уласнымі рукамі. Мураваў клуню, хлявы, дом, сам рабіў сталярку, сам габляваў дошкі на падлогу і ўкладаў яе, сам прыбіваў столь, крыў, сам рабіў печы і цэнтральнае ацяпленне. Яго рукі — да ўсіх будаўнічых спецыяльнасцей. А колькі іх, дык цяжка нават палічыць, таму што, на што ён не паглядзіць, усё можа зрабіць. Толькі не хапае часу.

Было яму ўсяго-наўсяго 16 год, калі збудаваў ён у бацькоўскай хаце ў Саках печку-сцяноўку (стаўбок). Калі суседзі ўбачылі, што яна добра награваецца і мае добрую цягу, мусіў рабіць такія печкі суседзям, а пасля ў Чаромсе. (Там упершыню змураваў і хлеў). З таго часу меў ён многа заказаў на будову печаў. І так усё шырэй і шырэй разыходзілася добрая слава аб добрым здуну Лявоне Дмітруку. І як толькі павяснее, мае ён багата здунаўскай работы. Ужо на вёсках стаяць дзесяткі печаў яго прадукцыі і імі задаволены гаспадары.

Лявона Дмітрука просяць таксама сяляне, каб будаваў ім хлявы, клуні, спіхляры. Халодныя будынкі будаваў і драўляныя і мураваныя. З цёплых будынкаў — толькі сабе пабудаваў хату. Ды як пабудаваў! Калі выканаў у сябе ўсе гідраўлічныя работы і калі зрабіў цэнтральнае ацяпленне, прыходзілі суседзі пабачыць, бо гэта яшчэ навасць на вёсцы — мець цёплую ваду ў кране. Тады яны захацелі мець такую выгаду ў сябе і звярталіся да Лявона Дмітрука ў гэтай справе. І зрабіў ён гэтую паслугу свайму суседу Мікалаю Шкодзе, а цяпер робіць усе гідраўлічныя работы з цэнтральным ацяпленнем другому суседу — Сяргею Нікіцюку.

Лявон Дмітрук сапраўдны майстар на ўсе рукі. З яго добры зваршчык (спавач) і механік, які ўмее наладзіць шмат машын. А ўжо сельскагаспадарчыя машыны і прылады даводзіцца яму аднаўляць даволі часта. А яшчэ



часцей рамантуе ён матацыклы. Кажуць у Рыгораўцах і Малінніках, што лепшага майстра па матацыклах нават у Бельску не знойдзеш. Умее ён таксама наладзіць і радыё і тэлевізар. Нязвыклы гэта чалавек.

Не пад сілу яму было б выконваць столькі рамесных работ сялянам, самому пабудавацца і належна весці гаспадарку, каб не меў ён добрай, працавітай жонкі. На яе плячах у асноўным уся жывёлагадоўля. А яна яшчэ ў вальнейшыя ад працы зімовыя дні займаецца саламянымі вырабамі — тчэ маты. У Дмітрукоў двое дзяцей. Дачцы Аліне 10 год. Вучыцца яна ў пачатковай школе ў Малінніках. Часта дамоў прыносіць у сшытку пяцёркі, у тым ліку і па беларускай мове. Сыну Яраславу 4 гады. Іграе ён на маленькім гармоніку.

**М. Хмялеўскі**
Фота М. Шаховіча

---

спулдзельня амаль падвоіла сваю вытворчасць — з 19 мільёнаў зл. у 1974 годзе да 35 мільёнаў зл. запланаваных на бягучы 1978 год.

Варта дадаць, што значная частка гэтых грошай трапіць да народных умельцаў усяе Беласточчыны — народных напрадух, ткачых, сялян, занятых пляценнем вырабаў з саломы, бо на прадпрыемстве спулдзельні на вуліцы Юравецкай і ў ганчарні працуе ўсяго некалькі дзесяткаў асоб.

Але ўсё гэта яшчэ не абазначае поўнай перамогі заможнасці над убоствам у Беластоцкай спулдзельні народных і мастацкіх вырабаў. Цяпер змаганне гэтых сіл адбываецца на вуліцы Марчук у Беластоку, дзе паўстаюць новенькія, прасторныя і светлыя карпусы для працы народных умельцаў. Яны павінны быць гатовыя яшчэ ў 1976 годзе. На жаль, выканаўца гэтай будовы — Беластоцкае прадпрыемства будаўніцтва лёгкай прамысловасці не выканала свайго абавязку і да сённяшняга дня. Больш таго: будова на Марчуку цалкам заглохла. На колькі часу, невядома. І гэта пакуль што найбольшы козыр убоства. Несаліднасць будаўнікоў не дазваляе яшчэ шырэй разгарнуць крылы беластоцкім умельцам. Але трэба верыць, што ўрэшце рэшт і ў іх пераможа разважлівасць і пачуццё адказнасці. Багаццю беластоцкіх мастацкіх вырабаў павінны адпавядаць і ўмовы для іх паўставання.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

---

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ВЯСЕЛЬНАЯ




*На пудворку новы калодзезь і відро,*)*
*чаму ж, Насценько, твае матулі ні відно?*
*Прайдзі, прайдзі сені і хату, камору —*
*у новуй каморы сваю матулю зобачыш.*

*) Песня спяваецца перад ад'ездам да вянца сіраты.

Ад Ольгі Галубоўскай, 1914 года нараджэння, вёска Новае Ляўкова гм. Нараўка, запісаў 26 лістапада 1977 г. Мікалай Гайдук, нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

---

# ПАСПЯХОВА ЗАКОНЧАНЫ

Паспяховым быў мінулы год для Бельскага ГСу. Пасля падлікаў выявілася, што атрымалі яны каля дзесяці мільёнаў злотых даходу. Далёка перавыканалі накрэслены план. Прыкладна, у вытворчасці. Мяшальня кармоў выканала план у 125 працэнтах, пякарня — у 110 працэнтах, фабрыка газіраваных напіткаў — у 125 працэнтах. Вельмі добра выглядаюць таксама паслугі, а асабліва кравецтва і транспарт. ГС ідзе на руку гаспадарам пры скупцы жывёлы. Каб не мусілі яны вадзіць жывёлу на пункт скупкі ў Бельск, прыязджаюць машынамі і забіраюць амаль з панадворка. Абы толькі назбіралася на цэлы транспарт, гэта значыць, сем штук, бо столькі бяруць у адну машыну. А назбірацца заўсёды назбіраецца. З суседніх вёсак даводзяць. Лягчэй жа весці два ці тры кіламетры, чым аж у горад. Таксама і са збожжам. На план 350 тон — скупілі і прывезлі 380 тон. Застаецца пажадаць, каб і бягучы год быў для бельскага ГСу як найбольш спрыяльным. (мш)

**М. ШАХОВІЧ**

# З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**коса** — селязёнка. А я казав, што шчэ ой будэ зіма. І гляньтэ, як коса пут кунэць росшыраецця. Шчэ всёго будэ.

**потухла** — лагодная (у аднясенні да зімы). От коб шчэ і лятось такая потухла зіма была як лоні, то вжэ і добрэ было б.

**пувпальток** — кароткае пальто. Ты вымі з сундука пувпальток, нэхай провіэтрые, а то моліэ шчэ чого доброго пойдят.

**русткі** — парасткі, што выпускае бульба, якая доўга ляжыць. Ты зобач, як картохлі поростіліся. Покуоль насыплеш парнік, то з годіну ошчыкуваті трэба.

**сохарыэ** — жалезныя вілы. Нэ кладі так сохаруов, а то шчэ хто наступіт і ногу проб'е.

**ярчук** — злосны (пераважна ў аднясенні да сабакі, але часамі і характарызуюць чалавека). Ну і в вас собака — чысты ярчук. Так і кідаецця. Сідіш дэсь ціэлы дэнь злуосны, як той ярчук.

*(Гародчына, гміна Нараў)*

---

# КАЖУЦЬ, ШТО...

...У некаторых гээсаўскіх магазінах шмат нікому непатрэбнай макулатуры. Гэта інструкцыі, якія павучаюць, як карыстацца такімі сельскагаспадарчымі прыладамі, як плуг ці барана. Ніхто гэтага не хоча браць. З'ява абураючая, бо над гэтымі інструкцыямі пацелі спецыялісты з вышэйшай адукацыяй (узялі за іх таксама і адпаведныя ганарары). А сяляне, замест хвалявацца, не прымаюць довадаў:

— Кожнае дзіцё на вёсцы ведае без інструкцыі, з якога боку плуга падчапіць клячу.

---

# УЖО ЁСЦЬ

У артыкуле „Пабудавалі святліцу“, змешчаным у 52/1139 нумары „Нівы“ ад 25 снежня 1977 года, мы інфармавалі аб тым, што жыхары Райска закончылі пабудову прыгожай прасторнай святліцы ў сваёй вёсцы.

Як нас праінфармавала намеснік дырэктара аддзела прадпрыемства „Рух“ у Бельску Яніна Сяргейчык, у апошнія дні мінулага года ў райскай святліцы быў адкрыты клуб прэсы і кніжкі. Працуе ў ім Яўгенія Шумская, якая раней вяла кіёск у гэтай вёсцы. Клуб прыгожа абсталяваны ў сярэдзіне, ёсць тэлевізар, радыёпрыёмнік і праігрывацель. У ім заснаваўся мастацкі калектыў, які ўзяўся за падрыхтоўку песень з мясцовага фальклору. Цяпер у клубе збіраецца моладзь і старэйшыя з гэтай вялікай вёскі (звыш 140 дамоў).

Варта дадаць, што ў канцы снежня мінулага года ў Доме культуры ў Бельску адбылася ўрачыстасць, у час якой былі пададзены вынікі конкурсу культурнай актыўнасці сельскага асяроддзя. На гэтай урачыстасці начальнік Бельскай гміны ўручыў найбольш заангажаваным у пабудову святліцы жыхарам Райска Яўгеніі Шумскай, Марыі Іванюк (радная ў гміне, старшыня КГВ) і Васілю Дамброўскаму (солтыс) рэчавыя ўзнагароды, а таксама радыёпрыёмнік і праігрывацель для святліцы.

**Я. Ц.**

---

# Дасягненні „Сполэм“

У мінулым годзе аддзяленне „Сполэм“ у Бельску адкрыла ў горадзе чатыры прыгожа абсталяваныя спажывецкія крамы па вуліцах: капітана Высоцкага, Дубічы, Міцкевіча і 1 Мая. Гэта адно з важных дасягненняў спулдзельні.

Паспяхова справіліся з выкананнем гадавых прадукцыйных планаў пякарня, цясткарня і завод газіраваных напіткаў. Гэта наступныя дасягненні „Сполэм“.

Пякарня пякла шэсць гатункаў хлеба: пазнанскі, вытраўны, закапянскі, заблудоўскі, апольскі і літоўскі. У продаж паступіла яго за суму звыш 14 мільёнаў злотых. 2 мільёны 305 тысяч злотых прыбытку атрымала пякарня.

Цясткарня замест планаваных 160 тон салодкіх вырабаў спякла 162 тоны. Вялікім попытам карыстаюцца калачы з сырам (па 46 зл. за 1 кілаграм) і маковец. Цясткарня атрымала 753 тысячы злотых прыбытку.

Завод газіраваных напіткаў прадукаваў найбольш пола-коктэ, залатой расы, зёлавіту, куік-колу і сталовай вады. Свой гадавы план 3 770 гекталітраў рабочы калектыў выканаў у верасні. Да канца 1977 года выпусціў на рынак яшчэ 226 гекталітраў розных напіткаў. Завод меў 187 тысяч злотых прыбытку.

**(ця)**

 

## PAVOL HAMMEL



### ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвала Данута Янчарак з Фальваркаў Тыльвіцкіх.

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, мне прыснілася, што заглянула я ў сваю шафу, якая стаяла ў пакоі, выцягнула з яе шуфляду, аж тут бачу: па маёй бялізне поўзаюць клапы. Ты, Астроне, ніколі пра іх не пісаў, дык што б гэта магло абазначаць?

Данка

Мне снілася, што адна мая знаёмая ўкрала ў мяне нейкія рэчы. Я за гэта пачала яе біць. Што гэта?

В. К.

Дарагі Астроне! Сніўся мне мой хлопец. Быццам я была з ім у адной вёсцы на танцах. Там была таксама яго колішняя паненка. Я з ім танцавала. Калі ён убачыў яе, то падышоў. Раз адзін загуляў і вярнуўся. Потым другі раз. Аднак я яму сказала, і ён пачаў гуляць са мной. Яна сядзела вельмі сумная. Аднак ён застаўся пры мне, хаця ўсё хацеў ісці да яе. Што гэта можа абазначаць? Вельмі прашу: надрукуйце ў „Ніве“ гэты сон.

Аня з Бельшчыны

**Данка!** Сніць насякомых — гэта заўсёды абазначае нейкія клопаты і непрыемнасці, тым больш, што клапы адносяцца да катэгорыі насякомых найменш прыемных. Падрыхтуйся! Можа гэта быць нейкая хвароба, бо клапы лазілі па бялізне.

**В. К.!** Абазначае твой сон, што нехта да цябе прыйдзе ці прыедзе, ды не з пустымі рукамі — абавязкова нешта атрымаеш у падарунку.

**Аня з Бельшчыны!** Думаю, што займаюць цябе ў апошні час пустыя роздумы і заняткі. Ты ж у сне перш за ўсё танцавала. Гэтыя роздумы, бадай, непатрэбна нуртуюць тваю душу, мо ты крыху зайздросная? Маеш хлопца — чаго ж баяцца за яго колішнюю паненку?.. Да папярэдняй хлопцы вяртаюцца рэдка. Твой сон як бы жыўцом выняты з жыцця.

**Астрон**




Мне 29 гадоў. Яшчэ незамужняя. Мой нарачоны, Ёзік, не такі ўжо прыгажун, але чалавек скромны, пра сябе многа не гаворыць, ды хваліцца не любіць. Добры спецыяліст, добра зарабляе. Мае кватэру ў тым жа блоку, дзе я жыву на кватэры. Хадзілі мы амаль год і нядаўна на шлюб дакументы падалі, ды да вяселля пачалі рыхтавацца. Але вось як на грэх, паехала я ў камандзіроўку і, вяртаючыся, пазнаёмілася ў поездзе з іншым хлопцам. Прыгажэйшы за Ёзіка, усю дарогу мне пра сябе і свае справы расказваў, ды, як кажуць, залатыя горы абяцаў. Выйшлі мы з поезда, прайшліся па гораду. Хацеў ён правесці мяне дадому, але я не згадзілася, баялася, каб прыпадкам з Ёзікам не спаткацца. Я яму і адрасу не падала. Дамовіліся ў горадзе спаткацца. Сказаў, што вельмі я яму спадабалася, што такой ніколі не спаткаў ды і многа, многа чаго нагаварыў. Ды сказаў, што хацеў бы, каб я яго жонкай была. І тут я прызналася, што замуж выходжу. Дык ён папрасіў, каб я дакументы забрала назад. Вярнулася я дамоў, і зараз жа Ёзік прыйшоў. Але размова ўжо нейк не клеілася. Ён заўважыў, што я нейкая іншая. Але я выкруцілася, што вельмі змучана і хутка яго адправіла. Гэты хлопец убіўся мне ў галаву і цяпер не ведаю, што рабіць?

Гражына з Беласточчыны

Гражына! Маеш ты хлопца добрага, ды пэўнага. А гэты? Хвалько ды круцель ён, відаць, добры. Столькі ўжо набяцаў, нагаварыў, першы раз дзяўчыну спаткаўшы. А ведаеш, бывае і так, што з вялікага гуку не будзе чаго браць і ў руку. Будзь асцярожна, задумайся сур'ёзна. Як кажуць, лепшы верабей у руцэ, як салавей на страсе.

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў




Што дзеецца ў актуальнай модзе для мужчын? Калі ў жаночай модзе мы наглядаем абсалютны разнабой і моду на стылізацыю (стыль элегантнай дамы, фальклорныя матывы, мода амаль жабрачая — пацёртыя джынсы, якія, праўда, ужо памалу выходзяць з моды), дык у мужчынскай модзе яскрава вылучаюцца два стылі: стыль элегантны і спартыўны. Але нават у элегантным стылі пераважаюць касцюмы, якія носяць без гальштукаў, а каўнер кашулі выкладаецца наверх.

Хадзіць на штодзень у касцюме не кожны любіць, ды і пры выконванні розных прафесіянальных заняткаў не кожнаму ён адпавядае. Таму ўсё часцей назіраем мы нават у старэйшых мужчын ахвоту насіць спартыўныя рэчы, якія складаюцца найчасцей з розных куртак, таўсцейшых кашуль і спартыўных штаноў.

На здымках мы прадстаўляем сёння „чысты“ спартыўны стыль. Зручны на штодзённыя заняткі і прыгожы. Такую куртку можна пашыць не толькі з матэрыялу, але і з тоненькай імітацыі замшу.

**Сяброўка**








Раніцай іх разбудзіў плач галодных дзяцей. А ў восем раніцы, выпіўшы па шклянцы ячменнай кавы з кавалкам хлеба, дзяўчаты ўжо стаялі ў двары жандармерыі, каля зброевага склада, перад укапаным у зямлю, пачарнелым ад часу драўляным сталом і анучамі выціралі з вінтовачных патронаў ружэйнае масла.

Увесь дзень прайшоў у рабоце. У абед іх пакармілі. Паліцай вылавіў з варыва некалькі кавалкаў вываранага мяса — усё багацце вялікага катла — і кінуў у міскі дзяўчатам.

— Не дадзім цыганам абжыраць украінцаў! — сказаў ён. — Ешце, дзяўчаты! У вас жа на тыдзень у складзе работы хопіць!

З асобных рэплік, якімі перакідваліся паміж сабой паліцаі, дзяўчаты зразумелі, што не пазней чым заўтра раніцай на станцыю будуць пададзены платформы і цыган адправяць у Адэсу.

Ну, добра, папрацуюць Лена з Надзяй на гэтым складзе яшчэ з тыдзень. А што потым? Усё роўна іх доўга ў жандармерыі трымаць не змогуць і адправяць у Адэсу. Дык няхай ужо гэта будзе хутчэй! Бо ў Адэсе выпадак можа дапамагчы ім звязацца са сваякамі, з сябрамі з падполля, адрасы явак яны трымаюць у памяці.

Навошта сядзець у раённай жандармерыі, трацячы час і надзеі?

І дзве дзяўчыны плачуць на поўны голас, не звяртаючы ўвагі на вокрыкі і пагрозы начальніка. Ім усё роўна, што з імі зробіцца!

— Адпраўце нас у Адэсу! — крычаць яны скрозь плач.

Спачатку Левандоўскі хацеў пасадзіць наступаўшых на яго дзяўчат у карцэр. Потым зразумеў, што гэтым нічога не даб'ецца. Выйшаўшы з карцэра, яны пачнуць крычаць яшчэ гучней. У яго, вядома, ёсць сродак прымусіць іх замаўчаць, але ці вартыя яны таго, каб ён траціў на іх свой час і нервы.

— Ідыёткі! — крыкнуў ён на ўсё горла, перакрыкваючы іх плач. — Я хацеў вам дабра. А калі вы самі гэтага просіце — адпраўляйцеся разам з цыганамі ў Адэсу. Але ведайце: вас там будуць судзіць! Судзіць як парушальнікаў граніцы Трансністрыі...

І злосным рыўком падсунуўшы да сябе ліст паперы, пачаў складаць акт прапажы дакументаў, час ад часу ўдакладняючы ў дзяўчат дэталі, якія забыўся. Нарэшце паставіў подпіс і падкалоў дакумент да лісткоў, прысланых румынскім афіцэрам.

— Якія ж вы дурныя! — прамовіў ён, паківаўшы галавой. — Самі ў пятлю лезеце!

На другую раніцу, ледзь развіднела, усіх цыган падняді і вывелі ў двор. Упершыню за некалькі дзён разлучаныя сем'і зноў злучыліся.

Табар зноў стаў табарам. Цыгане смяяліся, спявалі, радаваліся так, быццам іх наперадзе чакала свабода, а не смерць. Жанчыны калыхалі на руках малых. Мужчыны шапталіся са сваімі жонкамі. Нават старая, якая ў камеры ўвесь час крычала і плакала, цяпер супакоілася. Яна сядзела побач са старым з сівой барадой, якому можна было даць усе сто гадоў.

А праз тыдзень дзяўчат судзілі за незаконны пераход Буга, бо па акупацыйных зонах Трансністрыя лічылася аўтаномнай. На шчасце, ні следчы, ні суддзя не ўсумніліся ў тым, што падсудныя гавораць праўду.

Суд пастанавіў: аштрафаваць абедзвюх па сто марак і адміністрацыйна выслаць назад цераз Буг. На другі дзень іх адвезлі ў Ціраспальскі канцэнтрацыйны лагер, дзе трэба было чакаць прыкладна сорак дзён, пакуль набярэцца дастаткова вялікая група парушальнікаў. Даваць канвой дзеля дзвюх дзяўчат адміністрацыя не хацела.

Што рабіць?.. Хто можа дапамагчы?

Лёс прыйшоў да іх у вобразе немаладой медыцынскай сястры, якой яны дапамагалі бінтаваць цяжкахворых і параненых. Яе парада была кароткая: заплаціць лагернаму пісару і паехаць у Адэсу, каб раздабыць дакументы аб дабранадзейнасці.

Пісар, малады румын з хітраватымі разумнымі вачыма, зразумеў дзяўчат з паўслова. Ён не запатрабаваў грошай наперад, але гарантаваў сябе на выпадак падмену.

— Усё будзе зроблена, — сказаў ён. — Дамнішуара* паедзе ў Адэсу. Яе сваячка застанецца заложніцай. Яе расстраляюць, калі дамнішуара ўцячэ.

І на наступны дзень Лена ўжо хадзіла па Адэсе, з кожнай гадзінай прыходзячы ва ўсё большы адчай. Сваякі, здавалася, зніклі бясследна. У іх кватэрах жылі чужыя людзі, якія нічога не ведалі пра сваіх папярэднікаў. Ісці на яўку яна пакуль яшчэ не мела права.

І раптам, седзячы на лаўцы ў пустым скверы, ужо зусім выбіўшыся з сіл, яна ўспомніла сяброўку сваёй маці па гімназіі, якая жыла на Рызаўскай вуліцы. Калі гэта старая жанчына ў Адэсе, яна дапаможа, як ёй не дапамагчы ў імя той дружбы, якая многія дзесяцігоддзі звязвала іх сем'і?

*(Працяг будзе)*

*)Дзяўчына (румын.)



 

